



**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Authorized by EUCOM Hqs Civil Affairs Division, 1. January 1951, Nr. UNDP 225
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Circulation: 3500 copies. Sponser: IRO
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ДВА ТЫДНІ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 72 — 15 кастрычніка 1951 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 5


# Незалежнасьць, фэдэрацыя і народнае галасаваньне

## Да нацыянальнай праграмы Савету Вызваленьня Народаў Расеі

Жывём у эпоху дэмакратызму, калі правы ўсіх народаў на іхнае вольнае й незалежнае жыцьцё зьяўляюцца гарантаванымі міжнароднымі законамі. Пастановы Атлянтычнай Карты й іншых міжнародных дэклярацыяў гаворацць аб гэтым ясна й нядвузначна. У духу дэмакратычных ідэяў рэалізуюцца сяньня гэтыя правы ў дачыненьні да ўсіх тых, яшчэ нядаўна паняволеных народаў, што не знаходзяцца пад акупацыяй таталітарнага Савецкага Саюзу. На пяці шостых частках сьвету, якіх не дасягае камуністычная дыктатура, паняцьці паняволеньня народаў, вынарадаўляньня слабейшых народаў сільнейшымі, абмежаваньні ці адмаўляньні нацыянальных і палітычных правоў адных народаў другімі страцілі ўжо на сваей актуальнасьці й перайшлі да гісторыі, як памятка няслаўнага мінулага.

Гэтак, прыкладам, Ангельшчына — найбольш клясычная імпэрыя мінулых часоў, — якая ўладала цэлым радам народаў даслоўна ўсіх частак сьвету, была змушаная згадзіцца з фактам, калі гэтыя народы ськінулі зь сябе ўсякую ангельскую залежнасьць і абвесьцілі свае незалежныя гаспадарствы. Падобна паступілі ЗША ў дачыненьні да Філіпінаў, Галяндыя ў дачыненьні да Індanэзыі, й г. п. На колькі гуманным і справядлівым было разьвязаньне нацыянальнага пытаньня ўспомненымі дэмакратычнымі гаспадарствамі вымоўна сьветчыць факт, што нядаўна паняволеныя імі народы не зьяўляюцца сяньня іхнымі ворагамі, але шчырымі прыяцелямі й палітычнымі саюзнікамі. Такім чынам права кажнага народу самому пастанаўляць аб сваім собскім лёсе, права на ягоную гаспадарстваўскую незалежнасьць зьяўляецца сяньня агульным і незапярэчным. Гэтае права прыслугоўвае бяз выключэньня ўсім народам сьвету, яно прыслугоўвае й народам, паняволеным бальшавіцкай Расеяй, а ў тым ліку й нам, беларусам.

Побач з гэтым, умовы міжнародных узаемадачыненьняў апошняга часу зрадзілі канечную патрэбу дабравольнага задзіночваньня паасобных народаў і гаспадарстваў у больш або менш цесныя міжгаспадарстваўскія блёкі коштам часьці іхнага сувэрэнітэту. Такога задзіночаньня вымагаюць патрэбы палітычныя, культурныя, эканамічныя, а перадусім абаронна-стратэгічныя. Паколькі ўсе гэтыя галіны людзкага жыцьця зьяўляюцца сяньня неабмежаванымі ў сваім засягу й разьвіваюцца ў сусьветным маштабе, патолькі, рэч зразумелая, ня могуць яны быць паўстрымоўванымі й зьвязванымі штучна створанымі гаспадарстваўскімі межамі. Гэтак паўсталі й заактуалізаваліся канцэпцыі фэдэрацыйныя. Міжнародныя ўзаемадачыненьні прыносяць не адзін прыклад насьпяваньня й рэалізацыі гэтых фэдэрацыйных канцэпцыяў, пачынаючы ад розных абаронных пактаў, а канчаючы на канцэпцыі задзіночаных штатаў Эўропы. Апошняя канцэпцыя ўжо выйшла із сфэры ідэі й тэарэтычных разважаньняў, а ўвайшла ў стадыю практычнага ажыцьцяўленьня. Найлепшымі гэтага доказамі можа быць эканамічны плян Шумана й ваенны плян Плевэна, на аснове якога творыцца эўрапэйская армія.

Аснаўны кірунак далейшага разьвіцьця людзкасьці гаворыць за тым, што фэдэрацыйныя канцэпцыі будуць усьцяж узмацняцца, што сужыцьцё народаў і гаспадарстваў будзе вымагаць што раз цясьнейшага супрацоўніцтва й вымены як матарыяльных, гэтак і духовых дасягненьняў паміж паасобнымі народамі.

Але адна канцэпцыя — незалежнасьці зусім ня выключае другой — фэдэрацыі. Ня выключае таму, што фэдэрацыя ў дэмакратычных умовах жыцьця апіраецца на прынцыпе дабравольнасьці. Апрача гэтага, калі адно сфэдэраванае гаспадарства траціць частку свайго сувэрэнітэту на карысьць агульна-фэдэрацыйнай канструкцыі, дык такую-ж самую частку сувэрэнітэту і ў той-жа самай меры траціць кажнае гаспадарства, што зьяўляецца ўдзельнікам фэдэрацыі.

Мы беларусы, якія імкнёмся ў будучыні пасьля зьнішчэньня бальшавізму аднавіць собскае незалежнае гаспадарства, мусім ужо сяньня лічыцца з тым, што будучая незалежная Беларусь будзе толькі часткай вялікшае фэдэрацыйнае канструкцыі, будзе гаспадарствам сфэдэраваным. Тут мы ня будзем разводзіцца над тым, зь якімі народамі практычна найвыгадней быць нам сфэдэраванымі, а разглядаем гэтую праблему ў плашчыні тэарэтычнай.

У сьвятле гэтых разважаньняў прыгледзімся цяпер, як думае разьвязаць нацыянальнае пытаньне на прасторы, абнятым сяньня Савецкім Саюзам, нядаўна створаны Керэнскім г. зв. Савет Вызваленьня Народаў Расеі. Гэтае пытаньне зьяўляецца асабліва важным і актуальным у сувязі з тым, што Савет мае выступаць ня толькі ад імені расейскага народу, але й усіх паняволеных бальшавізмам нерасейскіх народаў, і што ініцыятары й закладчыкі Савету — расейскія палітычныя арганізацыі ўжо зьвяртаюцца да палітычных прадстаўніцтваў нерасейскіх народаў з прапановамі іхнага ўваходу ў Савет.

Ня будзем тутака спыняцца над усімі пунктамі нацыянальнае праграмы расейцаў, бо гэта ўжо мы зрабілі ў вартыкуле «Што нам суляць расейцы», надрукаваным у 68 нумары «Бацькаўшчыны»; спынімся тут толькі над пытаньнем, якое непасрэдна вяжыцца з тэмаю нашага артыкулу. Вось-жа аснаўным пунктам гэтае праграмы ёсьць асьветчаньне, што Савет паддзержывае канцэпцыю захаваньня адзінства расейскае імпэрыі ў граніцах 1939 г., у якой усе народы былі-б сфэдэраваныя й цешыліся-б роўнымі нацыянальнымі правамі. Аднача сна Савет дапускае поўнае самавызначэньне нерасейскіх народаў і выхад іх з агульнарасейскае фэдэрацыі, аб чым, аднак, павінна задэцыдаваць свабоднае волявыяўленьне народаў шляхам агульнага галасаваньня — плебісцыту.

Ня будзем тут таксама спыняцца над справай граніцаў 1939 г. і плянаў новага падзелу Беларусі й Украіны, бо да гэтага пытаньня вернемся іншым разам. Разгледзім толькі пытанье, ці такая пастаноўка спарвы (агульнанароднае галасаваньне) адказвае вышэйазначаным дэмакратычным прынцыпам у разьвязаньні нацыянальных праблемаў сучаснае эпохі і ці яна заспакайвае нацыянальныя патрэбы й інтарэсы ўсіх народаў, ці наадварот, хавае яна ў сабе тэндэнцыі, з гэтымі прынцыпамі супярэчныя? Вось-жа калі глыбей прааналізуем гэтае пытаньне, дык пераканаемся, што адказ можа быць толькі нэгатыўны.

Ніводзін зь нерасейскіх народаў, што імкнуцца да адбудовы собскае нацыянальнае незалежнасьці, дабравольна да Расеі не далучыўся. Усе яны былі сілаю падбітыя расейскімі царамі, а потым,

(Заканчэньне на 3 балоне)

# БЛІЗКІ УСХОД БУНТУЕЦЦА

Вялікабрытанія, якая некалькі дзесяткаў год таму назад была наймагутнейшай у цэлым сьвеце імпэрыяй і пры амэрыканскім ізаляцыянізьме адыгрывала найвялікшую сусьветную ролю, паступова, але сыстэматычна траціць сваё значэньне ў сьвеце. Пасьля поўнага ўнезалежненьня ад Лёндану цэлага раду ягоных дамініяў і калёніяў, межы імпэрыі агранічыліся да Брытанскіх астравоў, а сыстэма брытанскага «камэнвэльту» сталася паняцьцем чыста фармальным.

Апошнім часам Ангельшчына сталася аб’ектам новага цяжкага ўдару, які моцна падважыў як ейныя інтарэсы на Блізкім Усходзе, гэтак і ейнае значэньне ў цэлым сьвеце.

### ЗМАГАНЬНЕ ЗА ІРАНСКУЮ НАФТУ

Англа-іранскі канфлікт у справе эксплуатацыі й прадажы ангельцамі іранскае нафты дайшоў да кульмінацыйнага пункту. Калі Ангельшчына адкінула апошнюю ноту Ірану аб узнаўленьні перагавораў у справе нафты, матывуючы гэта тым, што нота ніякіх новых праектаў для разьвязаньня канфлікту ня ўносіць, пэрсыдзкі ўрад выдаў загад аб эвакуацыі да 4 кастрычніка ангельскага тэхнічнага пэрсаналу, працуючага на пэрсыдзкіх нафтовых рафінэрыях. Ня гледзячы на пастанову Гааскага Міжнароднага Трыбуналу, пагрозы Ангельшчыны збройна бараніць сваіх правоў, як і мэдыятарскія спробы ЗША, іранскі ўрад, а галоўна прэм’ер міністраў Могамэд Мосадэк аказаліся станоўкімі й бескампрамісовымі. У сувазі з гэтым Ангельшчына яшчэ перад уплывам вызначанага тэрміну забрала свой тэхнічны пэрсанал у колькасьці звыш 300 асоб з Пэрсыі й справу гэтую перадала на вырашэньне Рады Бясьпечнасьці, якая й сабралася 1-га кастрычніка. Далейшыя паседжаньні Рады былі адложаныя ў сувазі зь няпрысутнасьцю шэфа іранскае дэлегацыі прэм’ера Мосадэка, які прыбыў у Нью-Ёрк толькі 8 кастрычніка, і хваробай апошняга, спачатку да 11, а потым да 15 кастрычніка.

Ангельшчына матывавала сваю заяву ў Радзе Бясьпечнасьці тым, што становішча Ірану ў нафтавым споры заграavailable сусьветнаму міру й міжнароднай бясьпечнасьці. Іранская дэлегацыя ўвесь час станоўка трымаецца пагляду, што справа іранскае нафты ёсьць нутраной справай Ірану, у які ані Рада Бясьпечнасьці, ані які-небудзь іншы міжнародны орган умешвацца ня мае права. Што болей, іранская дэлегацыя папярэдзіла, што яна дэманстрацыйна пакіне паседжаньне й будзе байкатаваць пастанову Рады ў выпадку, калі ейная пастанова будзе вынесеная ў духу ангельскіх дамаганьняў. Такое становішча іранскага ўраду падтрымліваюць дзьве дэлегацыі Рады Бясьпечнасьці — Савецкі Саюз і Югаславія, тады калі 9 іншых дэлегацыяў трымаюцца ангельскага пункту гледжаньня.

Вялікабрытанія ў сваей заяве дамагаецца, каб Рада Бясьпечнасьці змусіла Іран адклікаць загад аб высяленьні тэхнічнага ангельскага пэрсаналу й рэспэктаваць пастанову Міжнароднага Трыбуналу ў Гаазе з 5 ліпеня, паводля якой абедзьве староны былі закліканыя ня ўводзіць ніякіх канчальных мерапрыемстваў, якія маглі-б прывесьці да завастрэньня сытуацыі. Як Ангельшчына, гэтак і ЗША паважна лічацца з магчымасьцю вэта савецкай дэлегацыі ў выпадку, калі-б Рада Бясьпечнасьці заспакоіла ангельскія дамаганьні.

Амэрыканская дэлегацыя ў Радзе Бясьпечнасьці робіць усьцяж намаганьні з мэтаю кампрамісовага палагоджаньня справы. Відаць пад ейным уплывам, ангельская дэлегацыя апошнімі днямі значна злагодзіла свае дамаганьні. Яна не настойвае ўжо на тым, каб Рада асудзіла паступак Ірану, але дамагаецца толькі ейнага ўплыву дзеля ўзнаўленьня непасрэдных перагавораў. Заступнік іранскага прэм’ера Гусэйн Фатэмі у вадказ на гэта паведаміў, што Іран згаджаецца распачаць новыя перагаворы, калі трэйцяе гаспадарства згодзіцца ўзяць на сябе ролю пасярэдніка.

### ВОРОЖЫ КРОК ЭГІПТУ

Пагроза Эгіпту, што ім будзеануляваны англа-эгіпскі трактат з 1936 г. аб бясьпечнасьці Суэцкага Каналу, як і дагавор з 1899 г. аб супольнай англа-эгіпскай адміністрацыі Судану, 8 кастрычніка ўвайшла ў стадыю свайго ажыцьцяўленьня. У гэты дзень эгіпскі ўрад перарваў ведзеныя ў гэтай справе перагаворы зь Лёндынам і эгіпскі прэм’ер-міністраў унёс у парлямант чатыры рэзалюцыі, у якіх дамагаецца вываду ангельскага гарнізону з тэрыторыі Суэцкага Каналу й прылучэньня Судану да Эгіпту.

Афіцыяльныя колы Эгіпту заяўляюць, што пасьля ратыфікацыі парлямантам ануляваньня англа-эгіпскіх дагавораў, якая мае наступіць 15 кастрычніка, ангельскія войскі ў зоне Суэцкага Каналу будуць уважацца за «варожыя збройныя сілы». У Лёндане афіцыяльна падчырківаецца, што Вялікабрытанія зьяўляецца здэцыдаванай навет збройна бараніць сваё становішча ў зоне Суэцкага Каналу й у Судане.

### ІРАК ТАКСАМА БУНТУЕЦЦА

Апошнімі днямі ўрад Іраку пастанавіў зрэвідаваць англа-іранскі дагавор, заключаны ў 1930 г. на 25 гадоў. Паводля гэтага трактату Вялікабрытанія мела права зарганізаваць свае лётніцкія абаронныя пункты ў Габоніі й Шайбе й у ваколіцах гэтых пунктаў трымаць свае ваўсковыя гарнізоны. Варта пры гэтым адцеміць, што лётніцкі абаронны пункт у Габоніі ператварыўся апошнім часам у найвялікшую лётніцкую ваенную базу Сярэдняга Усходу, а стацыянуючы там ваенны гарнізон [illegible] апошнія месяцы значна ўзмоцнены.

* * *

Апошнія няўдачы Ангельшчыны на Блізкім Усходзе зьяўляюцца на руку для Савецкага Саюзу, які ўсюды там, дзе толькі магчыма, стараецца бараніць становішча ўсходніх краінаў, як і праз свае пятыя калоны падтрымліваць у іх антыангельскія настроі. Аднак аснаўныя прычыны антыангельскіх выступленьняў на Блізкім Усходзе хаваюцца ў чымсьці іншым. Яны выплываюць зь незадаваленьня арабскага сьвету з палітыкі заходніх гаспадарстваў, эканамічнага выкарыстойваньня іх Ангельшчынай, як і з нацыянальных пачуцьцяў арабскіх народных масаў. Антыангельскія мерапрыемствы Ірану й Эгіпту былі ў вялікай меры зробленыя пад прэсыяй насельніцтва гэтых краінаў, якое праводзіць масавыя дэманстрацыі супраць Ангельшчыны, катэгарычна дамагаючыся няўмешваньня апошняй у іхныя нутраныя дачыненьні. На колькі насельніцтва гэтых краінаў зьяўляецца задзіночаным і скансалідаваным у сваей антыангельскай акцыі, можа сьветчыць факт, што ўрадавыя апазыцыі як у Іране, гэтак і Эгіпце поўнасьцю салідарызуюцца з урадамі ў антыангельскіх мерапрыемствах.

Але палітыка Ірану й Эгіпту б’е ня толькі па Ангельшчыне. Яна ў ня меншай меры зьяўляецца ськіваранай супраць інтарэсаў усяго Захаду й ягоных абаронных плянаў на Блізкім Усходзе й міжземнаморскім прасторы, становячыся такім чынам праблемай міжнароднай. Таму Захад асабліва зацікаўлены ў палюбоўным палагоджаньні гэтых канфліктаў і шукае кампрамісовага выхаду. Гэтак у дачыненьні да Эгіпту заактуалізаваўся апошнім часам плян заснаваньня абароннага пакту Блізкга Усходу, у які, як раўнапраўны сябра, увайшоў-бы й Эгіпт. Тады ў зоне Суэцкага Каналу стацыянавалі-б ужо ня выключна ангельскія войскі, але міжнародныя збройныя сілы, у тым ліку эгіпскія й ангельскія. Што тычыцца Ірану, варта адцеміць новы праект, які унёс былы міністар фінансаў ЗША Моргэнтаў. Згодна гэтага праекту Задзіночаныя Нацыі павінны адкупіць акцыі Англа-Іранскага Нафтовага Товарыства, падпарадкаваўшы яго такім спосабам міжнароднай кантролі.

Чым уся гэта справа закончыцца, пакажа недалёкая будучыня. На сяньня аднак зьяўляецца яна нязвычайна балючым ударам для Ангельшчыны й вялікай перашкодай для гаспадарстваў Атлянтычнага пакту ў іхнай абароннай акцыі.

(-іч)

# БЕЛАРУСЬ НЕПЕРАМОЖНАЯ

Чырвоная Масква з мэтаю поўнае русыфікацыі беларускага народу й павялічэньня за ягоны кошт нацыянальнага патэнцыялу расейскага ўжо на працягу звыш трыццаці год сыстэматычна вынішчае ўвесь нацыянальна творчы, актыўны й сьведамы беларускі элемэнт. За ўвесь гэты пэрыяд часу дзесяткі й сотні тысячаў беларускае перадавое інтэлігенцыі й нацыянальнага актыву было арыштавана, расстраляна або выслана ў канцэнтрацыйныя лягеры на павольнае кананьне. Гэткі-ж самы лёс падзяліла таксама некалькі мільёнаў беларускага перадавога й найбольш нацыянальна актыўнага сялянства.

У выніку няведамай яшчэ ў гісторыі вынішчальнай палітыкі чырвонага Крамля сяньня касьцьмі беларусаў усеяная ўся адна шостая часьць сьвету ад Сахаліна й Калымы на Далёкім Усходзе, Котласа, Салавецкіх астравоў і Беламорканалу ў палярнай поўначы да Казахстанскіх пустыняў на паўдні. На бязьмежнай тэрыторыі Савецкага Саюзу ўва ўсіх канцэнтрацыйных лягерах прымусовае працы, як і на ўсіх «вялікіх пабудовах камунізму» мучаюцца сотні тысячаў беларусаў, будучы адарванымі ад роднае зямлі й асуджанымі на павольную сьмерць толькі за тое, што яны хацелі быць беларусамі.

Арышты, ссылкі й расстрэлы ў Савецкім Саюзе ня спыняюцца ніколі. Крывавыя расправы над беларускім народам адбываюцца сыстэматычна, яны сталіся звычайным штодзенным зьявішчам. Цьверджаньні, што ў Беларусі бадай няма ніводнай такой [illegible] зь якой нехта ня быў-бы арыштаваны, высланы ці растрэлены, не зьяўляюцца ніякім пераўвялічэньнем, але ілюструюць жахлівую запраўднасьць. Але побач із сталым і бесьперапынным нішчэньнем беларускага народу, у Саветах ад часу да часу адбываецца масавая вынішчальная акцыя, званая генэральнымі чысткамі, калі ахвярамі чырвонага тэрору падаюць сотні тысячаў, а навет мільёны ў нічым нявінаватых людзей. Да гэтага часу на Беларусі ўжо пракацілася аж пяць хваляў такіх масавых чыстак, у выніку якіх найбольш нацыянальна творчы й сьвядомы беларускі элемэнт быў бясьсьледна зьнішчаны.

Пралёгам да такіх чыстак можна ўважаць ведамы працэс Лістападаўцаў у 1926 г., у выніку якога было засуджана на доўгія гады, а потым у адміністрацыйным парадку практыкі ГПУ зьнішчана цэлы рад беларускае моладзі Случчыны, якая пад кіраўніцтвам палкага патрыёты Лістапада плянавала падняць беларускі народ на змаганьне за ідэалы 25 Сакавіка. Дзейнасьць Лістападаўцаў выводзілася з традыцыяў Слуцкага Паўстаньня й была фактычна ягоным эпілёгам.

Але першая масавая чыстка ў Беларусі прыпадае толькі на 1929—30 г.г., калі Масква, у імя абнаглелага расейскага вялікадзяржаўніцкага шавінізму, аб’явіла паход супраць найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускае культуры, мастацтва, літаратуры й навукі, як і перадавых грамадзкіх дзеячоў, ведамы пад назваю ліквідацыі нацдэмаўшчыны. Побач із сотнямі іншых слаўных беларусаў, былі тады арыштаваныя й высланыя такія заслужаныя беларускія дзеячы, як праф. Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Смоліч, Ластоўскі, Гарэцкі, Краскоўскі, Баліцкі, Дыла, Чарнушэвіч і мноства іншых. У сьлед за гэтай акцыяй, а часткова й адначасна зь ёю адбываецца прымусовая калектывізацыя й ліквідацыя г. зв. кулакоў. Ахвяраю раскулачваньня пала да двух мільёнаў беларускага перадавога, найбольш прадпрыемчывага й нацыянальна сьведамага сялянства.

Наступная масавая чыстка прыпадае на 1933 г. Побач зь беларускімі нацыянал-дэмакратамі, такімі, як паэты Дубоўка, Пушча, Чарот, ды пасламі ў польскі сойм, вымененымі Саветамі, як Тарашкевіч, Дварчанін, Мятла, Рак-Міхайлоўскі й іншыя, гэтая чыстка галоўным чынам закранула беларускіх партыйцаў. Гэта былі тыя беларусы, што, зьяўляючыся перакананымі камуністымі, стараліся пагадзіць ідэі камунізму з нацыянальнымі патрэбамі беларускага народу. На працягу некалькіх месяцаў зьніклі

(Заканчэньне на бал. 4)

## ШУКАЕМ РАЗЬВЯЗКІ

(Заканчэньне)

мы на Усходзе Эўропы, у тым ліку й на Беларусі.

Адна балонка гісторыі зачыненая. Бальшавікі апанавалі ўсю цэнтральную Эўропу й цьвёрдай нагой сталі ў Заходняй Эўропе. Здавалася-б, што цяпер ім няма патрэбы лічыцца з нацыянальнымі дамаганьнямі нанава паняволеных народаў. Аднак узрост нацыянальнае сьведамасьці гэтых народаў, у тым ліку й беларускага, змушаюць іх пайсьці на новыя ўступкі. Каб заспакоіць узрослыя нацыянальныя дамаганьні беларускага народу, яны падносяць БССР да гаспадарстваўскай годнасьці, ставячы яе на адну ўзроўню з Расеяй. Беларусь выступае на міжнародным форуме, як самастойнае гаспадарства, яна мае свайго дэлегата ў Задзіночаных Нацыях, Радзе Бясьпечнасьці і г. п.

Новы бальшавіцкі туман, каб прысланіць запраўдную рэчаіснасьць, масавы тэрор і зьдзек над беларускім народам, даў пажаданыя рэзультаты. Сотні тысяч беларусаў прымусова вывезеных у Нямеччыну, замучаных непасільнай працай у нямецкіх лягерах, яшчэ раз падаюць ахвярай бальшавіцкага ашуканства. Няважна, што Беларусь яшчэ ў саюзе з Савецкім Саюзам, але яна-ж мае цяпер раўнапраўны голас у г. зв. сям'і савецкіх народаў. Цяпер напэўна свае людзі будуць гаспадарамі на Беларусі. Тымчасам савецкае радыё бесьперапынна іх корміць зманлівай прапагандай. Яны чуюць перадачы на роднай мове, яны чытаюць у заходняй прэсе аб выступленьнях беларускіх дэлегатаў. Тут зайграў нацыянальны гонар. Пры тым шмат што зьмянілася. Цэрквы ўзноў адчыненыя. Замаскаваныя бальшавіцкія агенты падшэптваюць, што навет праўдападобна калгасы маюць быць скасаваныя. Чаго-ж тады чакаць?

Больш асягнуць немагчыма, бо з боку заходніх альянтаў няма ніякіх прыкметаў зацікаўленьня нутранымі праблемамі Савецкага Саюзу. Заходнія гаспадарствы выпярэджваюцца ў доказваньні свае дружбы ў дачыненьні да Савецкага Саюзу. Савецкія рэпатрыяцыйныя місыі свабодна цыркулююць па Заходняй Эўропе. Шматлікія выпадкі прымусовае рэпатрыяцыі пры помачы амэрыканскіх штыкоў нічога добрага не варожаць. Не памагае перасьцярагаючы голас беларускага нацыянальнага актыву, які й сам часта мусіць хавацца перад рэпатрыяцыйнымі камісыямі. Захад астаецца глухім на справядлівыя нацыянальныя патрэбы паняволеных бальшавізмам народаў. **Др. Б. Рагуля**

(Заканчэньне ў наступным нумары.)

**ПАПРАЎКА: Падчас ламаньня апошняга (71) нумару «Бацькаўшчыны» пад артыкулам «Шукаем разьвязкі» было памылкова ўстаўленае прозьвішча аўтара М. Відук, замест Др. Б. Рагуля. Таму ў далейшых частках артыкулу гэтую памылку папраўляем. Рэдакцыя**

## Распачынаючы новы этап

Лювэн. Панядзелак 1-га кастрычніка. Пачынаецца новы акадэмічны год. Вуліцы ўтульнага, ціхага гарадка ажывіліся, зышумелі. Сустракаюцца йзноў старыя й новыя сябры дзеля супольнае прыцы, дзеля пракладваньня дарогаў як у сваім собскім жыцьці, гэтак і ў жыцьці тых народаў, да якіх яны належаць.

Паводля ўнівэрсытэцкае традыцыі ўрачыстасьць адкрыцьця новага акадэмічнага году пачалася паходам адзетых у тогі прафэсароў на чале з рэктарам унівэрсытэту й прадстаўнікоў студэнцкіх арганізацыяў із сваімі сьцягамі. Прыемна было бачыць між іншых і новы сьцяг Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне: на хварбах унівэрсытэту — бел-чырвона-белы сьцяг з Пагоняй, унівэрсытэцкай эмблемай ды Ярылавым крыжам на палцы. Гэтая працэсыя накіравалася па запоўненых народам вуліцах ад унівэрсытэцкае галі да касьцёла сьв. Пятра, дзе была адслужаная Яго Магніфіцэнцыяй Рэктарам лювэнскага ўнівэрсытэту ўрачыстая багаслужба.

Пасьля багаслужбы, у вялікай унівэрсытэцкай залі ў прысутнасьці прадстаўнікоў бэльгійскага ўраду, на заканчэньне сваей прамовы Рэктар абвесьціў новы акадэмічны год адкрытым.

У наступную нядзелю Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне адсьвяткавала пачатак новага акадэмічнага году ў цясьнейшым крузе. Галоўнай часткай гэтае ўрачыстасьці была сьвятая літургія, адслужаная паважаным айцом Аўгенем Смаршчком у Беларускай Праваслаўнай Капліцы ў Лювэне ў прысутнасьці беларускіх і ўкраінскіх студэнтаў. Глыбокая прамова айца Аўгеня моцна закранула прысутных і шмат дала ім да думаньня й передуманьня:

**«Вы-ж цьвет народу Вашага! — казаў ён. Вы — запэўненьне ягонае будучыні! Глыбокая сьведамасьць гэтага прыносіць ня толькі гонар, але й накладае вялікія абавязкі.**

**Узгадаваньне чалавека трывае ад нараджэньня аж да сьмерці. І ніводзін чалавек у сваім жыцьці не дасягне ступені дасканальнай. Хто гэта цьвердзіць, той затрымоўваецца ў працэсе свайго развою...**

**Усе мы ўжо ў гадох, у якіх існуе й павінна існаваць г.зв. самаўзгадаваньне. Яно значыць, што мы ведаем мэты й спосабы, ведаем абавязкі й правы ды маем даволі сілы волі й самакрытыкі, каб сябе ўзгадаваць.**

**Але існуе яшчэ ральля, якая спарадзіла нас, дзе засталося нашае карэньне, хоць нас насільлем ад яе адлучылі. Карэньне нашае — там, на Бацькаўшчыне! Пільнуйма, каб нашая духовая лучнасьць з Бацькаўшчынай не перарвалася, каб не пасохлі мы на чужыне, як засыхаюць кветкі, вырваныя з агароду...**

**Не марнуйце талентаў, якія даў Вам Бог, як слугам сваім, не закопвайце іх, а імкніцеся да разьвіцьця іхнага ў пагоні не за славай, а за ўдасканаленьнем асабістым у кажнай галіне. Дыплёмы й адзначэньні, слава й павага паміж людзей прыйдуць самі, як вынік Вашае працы...**

**Вось мая навука душпастырская й сяброўская ды пажаданьні Вам на дарогу новага акадэмічнага году, новага й мазольнага этапу працы над сабою і, памятайма, ня толькі для сябе». Я. З.**



**У першым радзе ў белых шапках із сьцягам свае арганізацыі прадстаўнікі Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне падчас урачыстага паходу вуліцамі гораду. З-заду сьцягі двух факультэтаў лювэнскага ўнівэрсытэту.**

## Незалежнасьць, фэдэрацыя...

(Заканчэньне)

пасьля аднаўленьня імі ў 1917—18 г.г. сваіх незалежных гаспадарстваў, бальшавікамі. Ніводзін з гэтых народаў ніколі не пагаджаўся з расейскай акупацыяй, а ўсе яны бесьперапынна вялі ідэалягічнае, а часта й збройнае змаганьне за сваё вызваленьне. А пасьля развалу царскае імпэрыі гэтыя народы ў 1917—18 г. г. абвесьцілі свае нацыянальныя сувэрэнныя гаспадарствы, якія пазьней былі сілаю зьнішчаныя расейскім бальшавізмам.

Выхадным пунктам у вадбудове гаспадарстваўскай незалежнасьці беларускага народу быў Усебеларускі Кангрэс, скліканы ў Менску ў сьнежані 1917 г., дэлегаты якога паходзілі з усяе этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі й былі выбраныя народам на падставе ўсіх дэмакратычных выбарных прынцыпаў. **Вось-жа гэты Кангрэс, які высказаўся за гаспадарстваўскую незалежнасьць Беларусі, як і абвешчаньне 25 сакавіка 1918 г. выбранай ім Радай Беларусі вольнай незалежнай дэмакратычнай рэспублікай і было тым агульнанародным галасаваньнем, якое пастанавіла аб лёсе беларускага народу. Пастановы Усебеларускага Кангрэсу, як і Акт 25 Сакавіка ня страцілі й сяньня сваей палітычнай важнасьці й юрыдычнай моцы, бо пасьля гэтага беларускі народ выражаный ім цераз сваіх выбраных прадстаўнікоў пастановы не зьмяніў.**

Прапанаваны расейцамі плебісцыт мы адкідам не таму, што баімся ягоных вынікаў. У пазытыўных для беларускай нацыянальнай справы выніках галасаваньня мы ня сумляваемся, бо беларускі народ у сваім бесьперапынным змаганьні дастаткова даказаў, што ягоным найвышэйшым ідэалам ёсьць вольная й незалежная Беларусь. Ходзіць тут пра тое толькі, што на такое галасаваньне згаджацца ня маем ніякага права, бо гэта было-б супраць волі беларускага народу, выражанай ім у 1917 г. Калі-б мы згадзіліся на такое галасаваньне, дык гэтым самым перакрэсьлілі-б усе пастановы Усебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка.

Такое галасаваньне ня ёсьць мэтазгодным яшчэ ў сувязі з тым, што Беларусь, як і цэлы рад іншых краінаў Савецкага Саюзу, навет у Сталінскай канстытуцыі юрыдычна мае загарантаваныя ўсе нацыянальныя правы нараўні з расейскім народам уключна з правам аддзяленьня ад Савецкага Саюзу. Праўда, гэта толькі юрыдычна, бо запраўднасьць ёсьць зусім іншая. Тым ня менш аднак фармальная незалежнасьць Беларусі вызнана навет усім дэмакратычным сьветам фактам прыняцьця дэлегацыі БССР ў склад Задзіночаных Нацыяў, як раўнапраўнага сябры. **Сяньня можа толькі ставіцца пытаньне аб зьмене накінутага сілаю бальшавіцкага рэжыму незалежнай з гледзішча праўнага Беларусі, а не аб існаваньні беларускай незалежнай рэспублікі, бо гэта ўжо зьяўляецца дакананым фактам.** Таму расейская прапанова народнага галасаваньня аб тым, ці Беларусь мае быць незалежнай, ёсьць з фармальна-юрыдычнага гледзішча вялікім крокам назад у параўнаньні навет з тым, на што здабыўся Сталін.

З другога боку расейцы, дамагаючыся такога галасаваньня, могуць мець на мэце ня што іншае, як імкненьне да захаваньня адзінай і непадзельнай Расеі. Яны надзеяцца, што беларускі, як і іншыя паняволеныя народы, да такой ступені паддаліся працэсу русыфікацыі, прымусова праводжанай Сталінскім бальшавізмам, што ў бальшыні сваей выскажуцца супраць аддзяленьня ад Расеі. У гэтым і заключаюцца антыдэмакратычныя імпэрыялістычныя тэндэнцыі расейскае праграмы. Калі-б расейскія арганізацыі — закладчыкі Савету ўзапраўды вызбыліся ўсякіх імпэрыялістычных намераў у дачыненьні да нерасейскіх народаў, калі-б яны перабудавалі свой сьветапагляд у духу дэмакратычных ідэяў Атлянтычнай Карты, дык напэўна ня ставілі-б тады так далёка йдучых абмежаваньняў для нерасейскіх народаў, якімі ёсьць такі спосаб народнага галасаваньня, а вызналі-б статус кво — пастановы Усебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка.

Калі-б аднак расейцы ня мелі ў дачыненьні да нас ніякіх захопніцкіх мэтаў, а толькі жадалі, — як яны апошнім часам заяўляюць, — справу будучых гаспадарстваўскіх узаемадачыненьняў зь імі абапёрці на свабодна выяўленай волі нашых народаў, дык гэтае волявыяўленьне магло-б быць праведзенае іншым, зусім аб'ектыўным спосабам, на які згадзіліся-б бясспрэчна беларускія палітычныя дзейнікі і які ў нічым не парушаў-бы нацыянальных інтарэсаў расейскага народу, як і выключаў-бы ўсякія засьцярогі й падазрэньні аб замаскаваным імпэрыялізьме расейскіх эміграцыйных палітыкаў. Гэты спосаб быў-бы наступны: **расейцы, вызнаючы ў дачыненьні да беларускага народу статус кво — пастановы Усебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка, задавольваюцца, што беларускі народ праўдзе галасаваньне аб тым, ці ён жадае, каб абвешчанае ім у 1918 годзе незалежнае гаспадарства асталося поўнасьцю самастойным ці каб увайшло яно ў фэдэрацыйную сувязь з расейскім народам, а таксама й з тымі народамі, што ўжо будуць у такой-жа фэдэрацыйнай сувязі з расейцамі.**

Увядзеньне такога пункту ў нацыянальную праграму Савету, як аснаўнога ў разьвязаньні нацыянальнага пытаньня, ні ў чым не парушала-б нацыянальных інтарэсаў расейскага народу, бо гэтае пытаньне зусім яго не датычыла-б; яно датычыла-б толькі нерасейскіх народаў, у нутраныя справы якіх расейцы не павінны былі-б умешвацца, калі-б хацелі сабе выставіць атэстат запраўдных дэмакратаў. Згода з расейскага боку на такую пастаноўку справы азначала-б вызнаньне расейцамі справядлівых нацыянальных правоў гэтых народаў, у чым расейскія палітыкі мелі-б добрую нагоду задэманстраваць свой дэмакратызм і антыімпэрыялізм. З другога боку, нерасейскія народы, згаджаючыся правесьці агульнае галасаваньне ў справе фэдэрацыйнай сувязі з Расеяй, выказалі-б максымум добрае волі й нацыянальнага выразуменьня, яны даказалі-б, што, ня гледзячы на некальківяковую жорсткую няволю ў складзе расейскае імпэрыі, ніякае варожасьці й няпрыязьні да расейскага народу ня чуюць. Таму няма абсалютна ніякае падставы адмовіцца ад такога сфармуляваньня нацыянальнае праграмы. Адмова ад такога разьвязаньня нацыянальнае праблемы сьветчыла-б толькі аб тым, што запэўненьні расейскіх палітыкаў аб іхнай згодзе на самавызначэньне нерасейскіх народаў і іхную гаспадарстваўскую незалежнасьць зьяўляюцца пустымі словамі, пад якімі хаваецца традыцыйная імпэрыялістычная палітыка Масквы.

З расейскага боку часта прыходзіцца пад нашым адрасам слухаць мянушкі «сэпаратыстых» і «нацыянальных шавіністых», як і закіды, што гэта мы быццам стаім на перашкодзе стварэньню супольнага фронту ў змаганьні супраць бальшавізму, які зьяўляецца найвялікшым злом, бязь зьнішчэньня якога ня можа быць і мовы аб разьвязаньні ў той або іншы спосаб нашага нацыянальнага пытаньня. Але ці нацыянальным шавіністым зьяўляецца той, хто бароніць справядлівых нацыянальных правоў свайго народу, ці той, хто ў імя спрадвечнага расейскага імпэрыялізму на гэтыя правы пасягае? І ці прыпісваны нам ярлык «сэпаратыстыя» ёсьць нечым праступным і антыдэмакратычным у той час, калі мы толькі зьяўляемся выканальнікамі волі беларускага народу, свабодна выказанай ім у 1917 г.? Калі мы за свае прыродныя й справядлівыя імкненьні заслужылі на пагардлівую мянушку «сэпаратыстых» і «нацыянальных шавіністых», дык як тады назваць тых расейцаў, што ўсімі сіламі й за ўсякую цану намагаюцца затармазіць натуральны нацыянальны развой паняволеных народаў з мэтаю ўтрыманьня іх у рамах расейскае імпэрыі, з мэтаю іхнае русыфікацыі й растапленьня ў «вадзіным расейскім моры»? Адказ на гэтае пытаньне няхай чытачы знойдуць самі.

Ня гэткім шляхам трэба йсьці да задзіночаньня ўсіх антыбальшавіцкіх сілаў дзеля змаганьня з найвялікшым злом сучаснасьці й дзеля наладжаньня шчырага супрацоўніцтва паміж нашымі народамі! Праўдзівым і ўзапраўды дэмакратычным шляхам, што хутка прывёў-бы нас да жаданае мэты, быў-бы шлях, які выбрала Ангельшчына, ЗША, Галяндыя й іншыя каляніяльныя калісьці гаспадарствы ў дачыненьні да паняволеных імі народаў. Дык чаму-ж на гэткі шлях ня хочаць узыйсьці расейцы?

**Ці дойдзе да стварэньня з расейцамі супольнага фронту ў змаганьні з бальшавізмам, ці правамоцныя й аўтарытэтныя нацыянальныя прадстаўніцтвы нерасейскіх народаў будуць змушаныя астацца вонках гэтага фронту, будзе залежыць выключна ад расейцаў. Над усім гэтым павінны сур'ёзна задумацца расейскія палітыкі й у інтарэсах ня толькі нашых, але й сваіх собскіх зрабіць з гэтага адпаведныя вывады. Над гэтым павінен таксама задумацца й Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі, які патрануе акцыі Керэнскага.**

**Язэп Каранеўскі**

---

Дзеля гэтага даваліся доўгатэрміновыя крэдыты работнікам для будаўніцтва й адводзіліся зь земляў князя дастатковыя вучасткі зямлі. Работнікі будаваліся на собскі кошт, іхная ініцыятыва ня была зьвязваная адміністрацыяй. Дабрушане будаваліся не на сьпех, а на стала, з прыбудоўкамі для каровы, парасяці ды дамашняй птушкі. У Добрушы ня відаць было дашчатых баракаў, у якіх бязь мінімальных выгадаў і ў цеснаце мучыліся работніцкія сем'і, як гэта назіралася пры гутах ды пільнях.

Пасьля рэвалюцыі парадкі зьмяніліся. Цьвёрды грунт з пад ног Дабрушан трэба было выбіць, зрабіць іх запраўднымі пралетарамі, каб яны не ўглядаліся на свае агароды, садкі, ня мелі карысьці із свае каровы ці парасяці. Работніку трэба глядзець на комін прадпрыемства, — гавораць бальшавікі. Дабрушанам не падабаліся новыя парадкі, — перакідваньне работнікаў у другія гарады ды прывоз новых работнікаў. Ім хацелася, каб Добруш быў для дабрушан. Аднак новая палітыка праводзілася няўхільна. Старое й спакойнае, часта зь мілымі прывычкамі, ламалася й нішчылася. Стары Добрускі работнік асаблівы, усё новае выклікае ў яго ня добры смак, які трываў гадамі, а можа й цяпер яшчэ трывае.

На захад ад Гомеля па абодвых бакох чыгункі ляжыць Уваравіцкі раён. Ён займае параўнальна невялікую тэрыторыю, добра зьвязаны з горадам, бо, апрача чыгункі, праз раён праходзіць шасэйная дарога. Гэта дае поўную магчымасьць вольным рукам здабыць працу на прадпрыемствах Гомеля, на чыгунцы, ды на гуце ў Касьцюкоўцы, а прадукты сельскай гаспадаркі знайдуць збыт у Гомелі. Аснаўная маса насельніцтва займаецца сельскай гаспадаркай, тут таксама пашыранае садоўніцтва. Для пераапрацоўкі садавіны й розных ягадаў працуе ў раёне завод, што вырабляе мармаляду й канфітуры. Тут садзіцца многа бульбы, якая добра родзіць. У Уваравічах ёсьць вялікі бровар. У вадлегласьці трох кілямэтраў ад чыгуначнай станцыі Уза знаходзіцца цэнтр раёну — Уваравічы. Гэта ёсьць невялічкае мястэчка, якое стыкаецца зь вёскаю тае-ж назвы.

Далей па чыгунцы з Уваравіцкім раёнам мяжуецца Буда-Кашалёўскі. Ён у многім падобны да Уваравіцкага раёну, толькі што з гэтага раёну менш людзей працуе на прадпрыемствах Гомеля, што тлумачыцца большай адлегласьцю ад акруговага цэнтру. Аднак Буда-Кашалёўскі раён мае й свае асаблівасьці. Мы ўжо мелі нагоду адзначыць, што гэты раён асабліва зьяўляецца багатым каштоўнымі дубовымі лясамі. Асабліва прыгожыя таварныя лясы знаходзяцца ў паўдзённа-заходняй частцы, дзе раён сваім крылом прымыкае к леваму берагу Дняпра. Вось-жа тут і знаходзіцца гэтае багацьце. Яшчэ да рэвалюцыі была ўстаноўленая эканамічная важнасьць дубовых лясоў і ў Будзе існавала гаспадарстваўская лясная школа, якая прыгатаўляла г. зв. лясных кундуктароў. Звычайна яны выконвалі абавязкі памочнікаў лясьнічых, якія мелі вышэйшую спэцыяльную асьвету й загадвалі гаспадарстваўскімі лясьніцтвамі. Вучні школы мелі добрую нагоду ня толькі назіраць штучныя пасадкі зь ляснымі культурамі, але й адбываць практыку й праводзіць досьледы ў натуральных дубовых лясох. Гэтая школа пры Саветах была закрытая.

Цэнтр раёну знаходзіцца поруч з чыгуначнай станцыяй. Пасёлак выглядае бедна й няўтульна. Ён стыкаецца зь вёскаю Буда. Бязь ніякага плянаваньня тут наляпілі розных базаў і складаў, кантораў ды раённых адміністрацыйных установаў. Усё гэта будавалася на сьпех з разнастайных будынкаў, якія сьцягваліся з астаткаў абшарніцкіх маёнткаў ды якія належылі да іншых собсьнікаў, а потым сталіся ахвярамі савецкае сыстэмы.

У пяці кілямэтрах ад чыгункі ляжыць вялікая вёска Кашалёва. У час першай сусьветнай вайны пры нямецкай акупацыі ў 1918 г. ў гэтай вёсцы ўзьнікла партызаншчына, як вынік незадаваленьня з дачыненьняў немцаў да мясцовага беларускага насельніцтва. Жорстка немцы расправіліся із сьмелымі, вольналюбнымі кашалёўцамі. Шмат мужчынаў было расстраляна, а вёска артылерыйскім агнём была зьнішчана й спалена. Такім чынам Кашалёва — гэта калыска новай беларускай партызаншчыны.

На гэтым мы канчаем апісаньне першай групы раёнаў Гомельшчыны, якія ляжаць пры чыгунцы й добра зьвязаныя з Гомелем. Жыхары гэтых раенаў адменныя ў многіх галінах жыцьця ад жыхароў іншых мясцовасьцяў. Яны энэргічныя, рухавыя, прадпрыемлівыя, здольныя, а галоўнае із собскай ініцыятывай і пісьменныя. Магчымасьць мець заработак на працы ў прадпрыемстве, набыць спэцыяльнасьць, мець часовы прыработак, лёгкі збыт дробнай прадукцыі ад сельскай гаспадаркі — усё гэта значна падняло дабрабыт насельніцтва. Гэта паклала сьлед у першую чаргу на жыльлёвым будаўніцтве, хатнім абсталяваньні ды вонкавым выглядзе самых сялібаў. Перш за ўсё кідаецца ў вочы тое, што пры новым будаўніцтве жыхар прыгараду ня цісьнецца ў вёску, а стараецца трохі адскочыць ад вёскі, на большы прастор, і там пабудавацца. Будынкі часта зробленыя з цэглы, з чыстай палавінай хаты калі не з патэфонам, дык із старым грамафонам і галяндэрскай печкай. Хатняе абсталяваньне ня носіць таго першабытнага, сумнага выгляду, якое, на вялікі жаль, яшчэ мае месца ў нашых глухіх вёсках. На вокнах тут пабачым чыстыя фіранкі й вазончыкі кветак. Сялібы ўпрыгожаныя садкамі зь яблынямі, грушамі, вішнямі, кустамі парэчак, аграсту ды градкамі трускавак. Пад вокнамі знаходзяцца гародчыкі зь кветкамі, сярод якіх мусіць быць абавязкава мальва, нагаткі, настурцыя, астра, рознакаляровая юргіня ды аграмадныя сланэчнікі. Тут-жа й пахучы бэз або язьмін. Выводзяцца й калодзежы зь дзеравянымі зрубамі, якія звычайна за дзесяткі гадоў абрастаюць мохам, цьвільлю ды грыбамі. Больш спатыкаецца калодзежаў з цэмэнтовымі зрубамі. Дзеці, як хлапцы, гэтак і дзяўчаты, наведваюць школы. Адзежа таксама прамаўляе на карысьць насельніцтва.

Усё гэта зьяўляецца вынікам нейкага дабрабыту й культурнага ўплыву гораду Гомеля. Аб адмоўных бакох уплыву гораду гаварыць ня прыходзіцца, бо яны вядомыя й ня носяць агульнага характару.

**С. Горвальскі**

---

**Падыймайся зь нізін, сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў, над нягодамі,**
**Занімай, Беларусь, маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!**

**Янка Купала**

